# Інфарм-калонка "РБ"

## ПОМНІК ГЕНЕРАЛУ

Міхаіл ШУЛЬМАН

**17 ліпеня 1944 года пры вызваленні горада Пружаны загінуў камандзір 9-га танкавага Бабруйска-Берлінскага корпуса генерал-маёр Б.С.Бахараў. На месцы гібелі бліз вёскі Шакуны каля дарогі Слонім-Высокае ўстаноўлены мемарыяльны знак.**

Танкавы корпус фарміраваўся ў Маскве, дзе многія яго ветэраны пражываюць і цяпер. Савет ветэранаў узняў пытанне аб будаўніцтве помніка генералу Бахараву і ў яго асобе—воінам корпуса ў г. Маскве. Сродкі на яго будаўніцтва пачалі збіраць яшчэ ў 1985 годзе. У зборы сродкаў прымалі ўдзел і навучэнцы Пружанскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Было сабрана каля 5 тысяч рублёў. На той час гэта былі вялікія грошы. А ўвогуле на будаўніцтва помніка было затрачана звыш 100 тысяч рублёў. І вось нядаўна ў двары адной з маскоўскіх школ, дзе фарміраваўся корпус, помнік быў урачыста адкрыты.

Генерал Б.С. Бахараў пахаваны ў цэнтры горада Бабруйска (корпус насіў назву Бабруйскага). На яго магіле ўстаноўлены танк Т-34.



## ЧЭРСТВАГА ХЛЕБА НЕ БУДЗЕ?

Галіна КАЛЯДА

**Як зрабіць так, каб з паліц магазінаў знік чэрствы хлеб?**

Хоць тэрмін рэалізацыі хлеба — 36 гадзін з моманту выпечкі, 12 гадзін з якіх хлеб павінен яшчэ адстаяцца на камбінаце згодна тэхналогіі, пакупнікі жадаюць бачыць хлеб у магазінах нават гарачым. "Калі не гарачым, хоць бы проста свежым",— лічаць яны, аб чым тэлефануюць і нам. Жаданне пакупніка — штуршок для дзеяння прадаўца. Таму адказныя работнікі райспажыўтаварыства "Саюз" пачалі вывучэнне попыту на хлеб і працэнта вяртання яго на перапрацоўку.

## АРМІЯ ЧЫТАЧОЎ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

**212 чытачоў перарэгістраваліся ў Пружанскай дзіцячай бібліятэцы ў першы дзень работы наступіўшага года, 56 — у чытальнай зале. Гэта значна больш, чым у годзе мінулым.**

Першымі, як, дарэчы, і ў мінулым годзе, аказаліся Антон Маслоўскі і Андрэй Муха — вучні пружанскай СШ №3, а таксама Сяргей Манакаў — вучань адной са школ Брэста. Як сведчаць работнікі бібліятэкі, гонка за першымі нумарамі чытацкіх фармуляраў — зусім не спартыўны інтарэс. На працягу года хлопцы з'яўляюцца самымі актыўнымі чытачамі.

### У Брэсце створана служба экстранай псіхалагічнай дапамогі

**Вы не знаходзіце выйсця з кола сваіх праблем?**

**Вам цяжка на душы?**

**Вы не верыце, што крызісная сітуацыя — гэта толькі часова?**

**ДАПАМОЖА ТЭЛЕФОН ДАВЕРУ.**

Ён стане дарадчыкам і памочнікам у цяжкі для Вас час.

Набярыце нумар **(8-22) 20-15-55 або 20-40-45.** Штодзённа, акрамя нядзелі, з 8.00 да 22.00 гадзін АНАНІМНА вы зможаце расказаць аб сваіх праблемах.

**Напамінаем, што, згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 снежня 1997 года "Аб рэагаванні службовых асоб на крытычныя выступленні ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі", усе кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад формаў уласнасці абавязаны разглядаць апублікаваныя ў дзяржаўных перыядычных выданнях, заснавальнікамі якіх з'яўляюцца рэспубліканскія і мясцовыя дзяржаўныя органы, крытычныя матэрыялы і на працягу месяца даваць адказ аб прынятых мерах.**

# Крытыкавалі. Як адрэагавалі?

## "ЦІ БУДЗЕ ЗНОЙДЗЕНЫ КАМПРАМІС?"

("РБ" за 9.12.1997г.)

Штуршком да гэтай карэспандэнцыі паслужыла пісьмо засімавіцкіх майстрых філіяла Брэсцкай фабрыкі сувеніраў, якія аказаліся па віне кіраўніцтва фабрыкі без памяшкання для работы. Справа ў тым, што дырэкцыя фабрыкі запазычыла Пружанскаму РВА ЖКГ 29 мільёнаў рублёў за арэнду кватэры ў Засімавічах, прыстасаванай пад рабочае памяшканне, плаціць за якое дырэктар фабрыкі М.М.Жураўлёў адмовіўся.

Нягледзячы на ўсе спробы кіраўнікоў Пружанскага райвыканкома, кампраміса з дырэкцыяй фабрыкі не атрымалася. Каб не пазбаўляць працы 18 чалавек, райвыканком знайшоў магчымасць выдзеліць невялікае памяшканне ў адным з жылых дамоў.

Вядома, не пакінута без увагі і нежаданне дырэктара Брэсцкай фабрыкі сувеніраў разлічвацца за паслугі, аказаныя РВА ЖКГ прадпрыемству, якое ён узначальвае.

У пісьме райвыканкома, накіраваным М.М.Жураўлёву, паведамляецца, што пры далейшым парушэнні ім Закона аб арэндзе, няўплаце запазычанасці за арандуемае раней памяшканне ў тэрмін да 1.05.98г. арэндадацель — РВА ЖКГ — звернецца ў гаспадарчы суд.

## "ВЯЛІКІЯ ПРАБЛЕМЫ МАЛЕНЬКАЙ ВЁСКІ"

("РБ" за 28.10, 16.12, 30.12.1997г.)

*У карэспандэнцыі гаварылася аб праблемах, што хвалююць жыхароў аддаленай вёсачкі Хомна калгаса "Ленінскі шлях".*

*Начальнік раённага вузла электрасувязі М.А.Клімовіч паведаміў: "На ваш артыкул "Вялікія праблемы маленькай вёскі" аб дрэннай рабоце тэлефона 56-1-33 Пружанскі РУЭС паведамляе наступнае: тэлефон 56-1-33 устаноўлены ў Хомна ў брыгадным доміку — сырым памяшканні, якое не ацяпляецца. Праверкай выяўлена, што тэлефонны апарат быў няспраўны. Ён заменены на тэлефон-аўтамат калектыўнага карыстання. Праведзена прафілактыка абанентнай лініі. Праверыць работу таксафона быў запрошаны вясковы стараста М.А.Хількові́ч".*

*Рэдакцыя атрымала адказ і ад начальніка ДРБУ-140 І.Ф.Пунько: "На выступленне газеты №100 ад 16.12.97г. паведамляю, што дарога паміж вёскамі Чахец — Хомна, якая патрабуе рамонту, з'яўляецца ўнутрыгаспадарчай дарогай калгаса "Ленінскі шлях". Згодна дагаворанасці са старшынёй калгаса "Ленінскі шлях" В.І.Сарокам, па яго заяўцы гаспадарцы для рамонту дарогі будуць выдзелены экскаватар і аўтагрэйдэр". Спадзяемся, што старшыня калгаса не забудзецца аб гэтай дагаворанасці, і дарога нарэшце будзе адрамантавана.*

## "НАВОШТА ЛЮДЗЯМ ТАКІЯ ПАСЛУГІ?"

("РБ" за 9.12.1997г.)

Жыхарка горада А.М.Яфімава скардзілася на работнікаў райгазу, якія, на яе думку, абыякава аднесліся да выканання работы па ўстаноўцы лічыльніка расходавання газу ў яе кватэры.

Як паведаміў рэдакцыі дырэктар райгазу С.Л.Крац, заметка была абмеркавана на сходзе калектыву прадпрыемства. Адзначана, што работы па ўстаноўцы лічыльнікаў у горадзе праходзяць у складаных умовах: маленькія кухні, застаўленыя кухоннай мэбляй і абсталяваннем. Праводзяць іх кваліфікаваныя спецыялісты. Для ўстаноўкі лічыльнікаў існуюць пэўныя ўмовы, забяспечваючыя ў першую чаргу бяспеку карыстання газавымі прыборамі. Лічыльнікі павінны быць устаноўлены на адлегласці 0,4 метра ад крайняй гарэлкі пліты, 0,5 метра ад акна і не вышэй 1,6 метра ад падлогі. У даным канкрэтным выпадку работнікі райгазу ўстанавілі лічыльнік па нарматывах і са згоды гаспадара, пражываючага ў гэтай кватэры, што пацвярджае подпіс у прыёма-здатачным акце, але, калі гаспадыня запратэставала, работа была выканана паўторна, без аплаты.

# Вяртаючыся да надрукаванага

## І АЗ ВОЗДАМ...

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Ініцыятыву ўзяла на сябе загадчыца аддзела сацыяльнай абароны райвыканкома М.Р.Чарвяк. Куды толькі ні звярталася Марыя Рыгораўна. Адусюль быў адзін адказ:- "Не положено!" Па закону прапісаць старых у Беларусі могуць толькі самыя блізкія сваякі. А што, калі такіх у Трушковых няма не толькі ў Беларусі, але і наогул ва ўсім свеце? Няўжо нельга зрабіць выключэнне?

Разарвала гэтае кола безвыходнасці Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь, якое дазволіла ў парадку выключэння без прапіскі спачатку выплачваць старым пенсію, а потым афармляць іх у дом састарэлых. Дзед з бабай атрымалі пенсію ледзь не за цэлы год адразу. Грошы былі пакладзены на ашчадныя кніжкі, каб старыя зноў не папаліся каму-небудзь на кручок. Потым адбылося афармленне Трушковых у Дамачаўскі дом састарэлых.

Трэба адзначыць, што нямала павазіцца з імі давялося дзяўчатам з кабінета №35 райсабеса, асабліва Веры Уладзіміраўне Іваніцкай. Словы "наша Вера" літаральна не сыходзілі з вуснаў старых. Парада якая трэба, "пойдзем да Веры. Як яна скажа, так і зробім", бульба закончыцца,— зноў да Веры... Вера Уладзіміраўна праводзіла сваіх падапечных і ў інтэрнат. Для гэтага райсабес даў свой "Масквіч". Загадзя сабралі самае неабходнае, прыселі на дарожку...

А за дзень да ад'езду баба з дзедам зайшлі ў наш будынак. Самі падняцца на трэці паверх у рэдакцыю яны ўжо не маглі і папрасілі выпадковага прахожага, каб перадаў, што яны чакаюць унізе. Што здарылася?

—Вось заўтра ўжо ад'язджаем,— зайдзі да нас вечарам, на развітанне,— папрасіла бабуля.

Мы доўга сядзелі ў вячэрнім паўзмроку пакоя. Баба Фёкла ўспамінала розныя дробязі са свайго жыцця. Негаваркі дзед Іван у знак згоды з ёю ківаў галавою. Гаварылі і пра інтэрнат, у якім старым давядзецца дажываць сваю старасць,— як там будзе? Па маленькім пакоі кучкамі былі раскладзены рэчы — уціральнік, прасцінка, navалачка... Бабуля, быццам сама з сабою, разважала:

—Мы ніколі нікому не рабілі зла, з намі заўсёды ўсім было прыемна. Што зробіш, калі так здарылася. Але мы глыбока ўдзячны тым, хто дапамагаў нам. Вось параіліся з дзедам і рашылі ўсё сваё дабро раздаць на памяць сваім добрым дарадчыкам: гэта — суседцы Галі, бо яна заўсёды была побач. Гэта — Стасі, яна прыносіла нам бульбу. Гэта — Нюры, яна цукрам з намі дзялілася. Гэта... — бабуля яшчэ доўга пералічвала сваіх знаёмых, перабірала кучкі падарункаў і прыгаворвала...

**Анна ХАДАРОВІЧ.**

> *Зацьменне розуму людскога,*
> *Зацьменне ў душах*
> *у людзей:*
> *Не чуюць ні сябе, ні Бога...*
> *А ты ідзі і жыта сей!*
> ***Змітрок МАРОЗАЎ.***

# Сустрэча з цікавым чалавекам

## ЁСЦЬ ЗА ШТО ПАЦІСНУЦЬ РУКУ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Катастрафічна не хапала аб'ёмаў работы, бесперастанныя прастоі, недахоп фінансавых сродкаў маглі выбіць з каляіны каго хочаш. На шчасце, ПМК-53 не развалілася, што, дарэчы, хто-ніхто прарочыў. Калектыў выстаяў, перанёс нялёгкія выпрабаванні, паверыўшы на слова свайму кіраўніку: "Крызіс не вечны, трэба думаць і верыць у лепшае, а яно абавязкова будзе".

ГЭТА ЛЕПШАЕ пачынае паціху праяўляцца. Ва ўсялякім выпадку сёння работы столькі, колькі пажадаеш. Вядома, складанасцей таксама не менш.

Вось хоць бы такі факт: у гэтыя дні меліяратары калоны заняты не толькі ў Пружанскім раёне, але і ў Кобрынскім, нават у Столінскім, да якога ад Пружан больш як 200 кіламетраў. Можна было, вядома, не брацца за аб'ект "у черта на куличках", дзе цяпер завяршаецца будаўніцтва комплексу збудаванняў па абароне населеных пунктаў ад падтаплення. Тым больш, што і самі збудаванні раскіданы на адлегласці 17 кіламетраў. Аднак жа адважыліся, выгадны заказ. У мінулым годзе тут асвоена 8 млрд. рублёў капіталаўкладанняў. А працаваць прыходзіцца па вахтаваму метаду: два тыдні адна змена, два —другая. І ўвогуле, на думку многіх, з кім прыйшлося размаўляць, 1997 год для калектыву аказаўся ўдалым. Толькі за дзесяць месяцаў было выканана работ на 17 млрд. рублёў, што перавышала планавы паказчык.

СТАНІСЛАЎ Сямёнавіч з задавальненнем, з якімсьці азартам гаварыў аб людзях. Перадаць гэта на паперы немагчыма, але калі б яго падначаленыя пачулі тыя добрыя, ідучыя ад сэрца словы, не сумняваюся, не знайшліся б адразу на хуткі адказ ад хвалявання. І вопытнейшыя машыністы экскаватараў Сцяпан Адамчук, Сцяпан Васюковіч, Іван Ждановіч, Аляксандр Васкалей, і асы бульдазерысты Іван Краўчук з Пятром Траднемчуком, і паважаныя трактарысты, якія кіруюць магутнымі К-700, Мікалай Карэтка з Генадзем Багдановічам, і прараб Мікалай Федасевіч з майстрамі Валерыем Рудкоўскім і Мікалаем Мішчанчуком...

—Я моцны сваімі людзьмі,— заключыў ён.

НАЗІРАЮЧЫ за яго духоўным парывам, мне так хацелася спытаць: ці шчаслівы ён? Не спытаў, пасаромеўся, не прынята мужыкоў такімі сентыментальнасцямі даставаць. І ўсё ж дакладна ведаю, што ў Лаўрыновіча на душы як раз і няма спакою. І тут размова зусім не аб сям'і. Яна ў яго моцная. З жонкай мір і згода. З дачкой таксама. Вунь шчабятуху-ўнучку Віку падарыла! Дарослы сын, знайшоў сваю дарогу ў жыцці. Аднак старажытная, як свет, праблема бацькоў і дзяцей часам і ў сям'і Станіслава Сямёнавіча абазначыцца. Але гэта дробязь, і гэта не тое, што точыць душу. Ён мне расказваў:

—Ну папрацуем мы яшчэ гадокдругі больш-менш прыстойна, а можа нават і зусім добра, затым — стоп! Таму што не будзе чым капаць каналы, араць зямлю, вазіць грузы. І ўсе мае 142 чалавекі могуць аказацца ў разбітага карыта.

І ён мае рацыю. Магутная ПМК, якая мае 17 аднакаўшовых экскаватараў, 15 трактараў Т-130, пяць — К-700, два — Т-150, шэсць — ДТ-75 і шэсць — МТЗ, коціцца да нялепшых часоў, паколькі ўвесь гэты парк машын зношаны да немагчымасці. І ўжо сёння ў кіраўнікоў калоны галоўны клопат — запчасткі, запчасткі, запчасткі.

Карацей, дрэнная, невясёлая перспектыва праглядваецца. Дрэнна ад гэтага Станіславу Сямёнавічу:

—Хоць бы да пенсіі дацягнуць,— нявесела жартуе ён.

ДА ПЕНСІІ яму далекавата, некалькі месяцаў назад толькі 50-годдзе адзначыў. Ды і не пенсіянерскі настрой у яго. Проста хочацца сёння і заўтра жыць на поўную сілу. Дай Бог, каб само жыццё і пасадзейнічала яму ў гэтым. Я ўжо рыхтаваўся развітвацца з ім, але зноў умяшаўся тэлефонны званок. Станіславу Сямёнавічу напомнілі, што сёння пасяджэнне райвыканкома і яму трэба прысутнічаць.

—Будуць разглядаць пытанні шэфскай дапамогі калгасам і саўгасам у правядзені асенніх палявых работ,— зазначыў ён. — У раёне запарка з узняццем зябліва. Гаспадаркі самі не паспяваюць, ну і шэфы, здаецца, слаба дапамагаюць. Так што выканком стане своеасаблівым актывізатарам шэфскага працэсу,— усміхаецца Лаўрыновіч.

—Выходзіць, едзеце на прапясочку?

—Здаецца, не павінна. Мы не чакалі "разборак палётаў" і някепска дапамаглі калгасам "Рассвет", "Савецкая Беларусь", саўгасу "Праца"... Тут нашы механізатары паднялі зябліва на плошчы больш 800 гектараў...

ШТО ПАСЛЯ ГЭТАГА можна было сказаць Лаўрыновічу? Толькі штосьці прыемнае, накшталт пахвалы. Але ў той момант патрэбныя словы быццам кудысьці паляцелі, і я на развітанне толькі моцна ад душы пацісную яму руку.

# Сесія раённага Савета дэпутатаў

## ЯК НЕДЗЯРЖАЎНЫ СЕКТАР ЭКАНОМІКІ ЎПЛЫВАЕ НА ЖЫЦЦЁ РАЁНА

### З садаклада старшыні пастаяннай камісіі Г.Г.Разанкі і выступленняў у спрэчках

СЁННЯ, зыходзячы з дадзеных статыстыкі, у недзяржаўным сектары працуе 45,5% ад агульнай колькасці занятых у народнай гаспадарцы. Імі выпускаецца прадукцыі, аказваецца паслуг у прамысловасці 80,7% ад агульнага аб'ёму вытворчасці.

Аднак доля камерцыйных структур у агульным аб'ёме без уліку прамысловых прадпрыемстваў, змяніўшых форму ўласнасці шляхам прыватызацыі, па раёне нязначная і складала на 1.12.97 года толькі 0,7%.

Па выніках гаспадарчай дзейнасці на 1 снежня 1997 года камерцыйнымі структурамі атрымана толькі 5,4 млдр. рублёў прыбытку. Найбольшы прыбытак атрымалі малыя прадпрыемствы "Салют" (3,9 млрд.), "Тытул" (335 млн.), "Алюр" (245 млн.), ТАА "Квадрат-К" (260 млн.).

Сярэднямесячная заработная плата за 9 месяцаў склала 1,2 млн. рублёў.

Нягледзячы на гэта ўсё ж камерцыйнымі структурамі толькі ў мінулым годзе створана 43 новыя рабочыя месцы, а ў цэлым па раёне ў гэтай сістэме працуюць 168 чалавек.

Стабільна працуе ў цяперашні час МП "Салют", зарэгістраванае райвыканкомам у лістападзе 1992 года. Кошт асноўных фондаў набліжаецца ўжо да аднаго мільярда рублёў. Поруч з аптовым гандлем нафтапрадуктамі і рознічным гандлем арганізацыя ажыццяўляе аўтатранспартныя паслугі і рамонтна-будаўнічыя работы, але яны, на жаль, складаюць толькі каля 5% ад ўсяго даходу.

Самая вялікая праблема, з якой сутыкаюцца прадпрыемствы, заснаваныя на прыватнай форме ўласнасці, гэта адсутнасць сродкаў на стварэнне вытворчай базы, набыццё абсталявання, транспартных сродкаў. Але ўсё ж тыя адзінкавыя прадпрыемствы, якія займаюцца вытворчасцю тавараў народнага спажывання і аказаннем паслуг насельніцтву, маюць хоць невялікую перспектыву развіцця і думаюць аб стварэнні сваіх вытворчых магутнасцей.

Калі гаварыць аб развіцці фермерскіх гаспадарак, то яны не атрымалі пакуль значнага развіцця ў раёне. Разгляд пытання на выканкоме "Аб рабоце фермерскіх гаспадарак" паказаў, што большасць з іх — гэта не таварныя, а падсобныя гаспадаркі з нізкай агратэхнікай, а адсюль і ўраджаямі. І паўплываць на павелічэнне вытворчасці сельгаспрадукцыі яны не змогуць.

Як альтэрнатыва гандлёвым прадпрыемствам сістэмы спажывецкай кааперацыі ў раёне дзейнічаюць некалькі гандлёвых кропак прыватных прадпрымальнікаў. Калі браць па аб'ёмах тавараабароту, то самымі значнымі з іх з'яўляюцца магазіны "Апельсін" (прыватны прадпрымальнік Андрэйчанка М.С.) і "Аквілон" (прыватны прадпрымальнік Папко М.В.). Гэтыя магазіны маюць дзелавыя сувязі з дзяржаўнымі прадпрыемствамі, такімі як Аранчыцкае збожапрыёмнае прадпрыемства, Слонімскі мясакамбінат, Гомельская кандытарская фабрыка "Спартак", Мінская база "Белбакалея".

Разнастайнасць асартыменту дасягаецца і тым, што наладжана супрацоўніцтва з многімі прыватнымі фірмамі, дзе тавар закупляецца ў невялікіх колькасцях і шырокім асартыменце. У прыватных гандлёвых кропках асобныя тавары значна дзешавейшыя, чым у спажыўкааперацыі, за кошт пастаўкі імпартных тавараў нізкай якасці, але аналіз паказвае, што тавары айчыннай вытворчасці раскупляюцца цяпер хутчэй.

Вывучэнне работы прыватных магазінаў гаворыць ад недастатковай кваліфікацыі прадаўцоў і нежаданні аказваць дапамогу ў набыцці тавараў, г.зн. рэзкага адрознення ў абслугоўванні насельніцтва ў лепшы бок пакуль не назіраецца і тут. У гэтай сувязі адпаведным службам райвыканкома пры выдачы дазволаў трэба звяртаць увагу і на гэты бок пытання.

У працэсе падрыхтоўкі пытання на сесію дэпутатам райсавета давялося наведаць рабочыя месцы многіх прадпрымальнікаў і зрабіць вывад, што абслугоўванне ў параўнанні з дзяржаўнымі практычна не змянілася: цырульні аснашчаны старым абсталяваннем, рэклама адсутнічае, інтэр'ер — бедны. Тое ж можна сказаць і аб фотамайстэрнях, многія майстры працуюць толькі на выездах.

Рамонт тэлерадыёапаратуры ажыццяўляюць толькі некалькі чалавек, астатнія перайшлі зноў у "Гефест" і дзяржаўную майстэрню. Галоўная прычына ў павышаных патрабаваннях па ўкамплектаванню майстэрні прыборамі і абсталяваннем пры атрыманні ліцэнзіі.

З усіх відаў паслуг толькі рамонт гадзіннікаў і абслугоўванне таксі ўзялі на сябе поўнасцю прыватныя прадпрымальнікі ў раёне. Пяць гадзіннікавых майстроў практычна задавальняюць патрэбы ў рамонце гадзіннікаў усёй Пружанскай зоны.

50 грузавых аўтамабіляў, якія знаходзяцца ва ўласнасці юрыдычных і фізічных асоб, ужо складаюць сур'ёзную канкурэнцыю дзяржаўным аўтатранспартным прадпрыемствам, таму што кошт аўтаперавозак у іх на 10—15% ніжэй, прадпрымальнікі пагаджаюцца на рэйсы ў любы час сутак, у выхадныя і святочныя дні і не толькі ў межах рэспублікі, але і ў краіны СНД, Прыбалтыкі, Польшчы, Германіі і г.д.

У напружаныя перыяды сельскагаспадарчых работ калгасы і саўгасы раёна таксама могуць выкарыстоўваць аўтатранспарт прадпрымальнікаў, аднак у сувязі з яго раз'яднанасцю, адсутнасцю неабходнай інфармацыі ўзнікаюць пэўныя цяжкасці ў аператыўным вырашэнні пытанняў.

Як паказваюць праверкі, беспрацоўе, якое стала рэальнасцю, заканадаўчае замацаванне толькі мінімальных гарантый у сферы працы, вырашэнне шэрагу пытанняў на меркаванне наймальніка вядзе не да сацыяльнага партнёрства, а да большай залежнасці работніка ад наймальніка, што непазбежна цягне парушэнне працоўнага заканадаўства і правілаў аховы працы.

Неаднаразова санітарнай службай раёна і міжраённай інспекцыяй працы выяўляліся сур'ёзныя парушэнні ў мэблевым цэху прыватнага прадпрымальніка Кадукі В.В. У цэху адсутнічае натуральнае асвятленне, водаправод і каналізацыя. Памяшканне, у якім склейваюцца дэталі мэблі, не мае ніякай вентыляцыі. Санітарна-бытавыя памяшканні для рабочых адсутнічаюць. Пытанне аб стане умоў працы ў мэблевым цэху прыватнага прадпрымальніка Кадукі В.В. заслухоўвалася на пасяджэнні выканкома 30.05.1996 года. У прынятым рашэнні прапаноўвалася на працягу 1996 года рашыць пытанне размяшчэння мэблевага цэха ў памяшканні, забяспечаным натуральным асвятленнем, водаправодам, каналізацыяй і цеплазабеспячэннем. Усё вытворчае абсталяванне прапаноўвалася забяспечыць эфектыўнай выцяжной вентыляцыяй. Аднак указанае рашэнне да гэтага часу засталося нявыкананым.

У лютым 1997 года па прычыне парушэння эксплуатацыі дрэваапрацоўчага станка адбыўся няшчасны выпадак з цяжкім зыходам на сумесным беларуска-германскім прадпрыемстве "МС + СК". Па матэрыялах спецыяльнага расследавання былі аштрафаваны дырэктар прадпрыемства і галоўны інжынер.

Істотныя парушэнні выяўляюцца і пры захаванні працоўнага заканадаўства. Асабліва часта гэта адзначаецца пры праверцы дзейнасці прадпрымальнікаў, якія выкарыстоўваюць наёмную працу. Так, у многіх з іх адсутнічаюць кнігі загадаў і залічэння на работу, нясвоечасова ўносяцца запісы ў працоўныя кніжкі пры прыёме на работу, не афармляюцца належным чынам карткі формы Т-2, не распрацоўваецца ўнутраны працоўны распарадак і службовыя інструкцыі, дапускаюцца запазычанасці па адпачынках.

**З.Я.ГАЙДУК,**
**старшыня Ружанскага пасялковага Савета:**

—У нашым пасёлку недзяржаўны сектар прадстаўлены магазінамі "Фалексан", "Аквілон", "Алеся", мэблевай фабрыкай, якая з'яўляецца даччыным прадпрыемствам ААТ "Івацэвічдрэў". Недзяржаўная форма ўласнасці не прыняла ў пасёлку вялікага размаху, каб прыкметна ўплываць на эканоміку раёна. Але нават адкрыццё гэтых трох прыватных магазінаў ужо з'яўляецца прыкладам для ініцыятыўнай часткі насельніцтва арганізаваць сваю справу, паспрабаваць свае сілы ў рознай прадпрымальніцкай дзейнасці. З іх адкрыццём 11 чалавек атрымалі работу, створана атмасфера канкурэнтнасці. За кошт тварнай масы гэтых магазінаў расшыраны асартымент тавараў у гандлёвай сферы пасёлка, але робіцца гэта часцей за ўсё за кошт імпартных тавараў, якія павінны мець ці суправаджацца інфармацыяй на рускай ці беларускай мовах, што часта не адпавядае рэчаіснасці. Апошнім часам вялікая ўвага ўдзяляецца наяўнасці ў магазінах тавараў і прадуктаў згодна з асартыментным пералікам і перш за ўсё сацыяльна значных. Усю адказнасць перад пакупнікамі за іх наяўнасць у продажы нясе спажыўкааперацыя. У магазінах спажыўкааперацыі вядзецца кніга рэгістрацыі паступаючых прадуктаў, дзе ўказваецца тэрмін рэалізацыі і сертыфікат якасці. У прыватных жа магазінах адносіны да якасці рэалізуемых тавараў сталі мяняцца да лепшага зусім нядаўна, але ў большасці выпадкаў сертыфікатаў якасці і сёння няма.

Таксама ў прыватных магазінах у шырокім асартыменце вядзецца гандаль парфюмерна-касметычным таварам, на рэалізацыю якога, акрамя сертыфікатаў якасці, неабходна заключэнне Міністэрства аховы здароўя аб дзяржаўнай гігіенічнай рэгістрацыі. Інакш хто можа гарантаваць, што, напрыклад, імпартны шампунь ці мыла прызначаны для чалавека. Хоць ёсць змяненні да лепшага, усё ж застаецца шмат пытанняў, у якіх можа разабрацца толькі спецыяліст. Такім чынам, з боку адпаведных служб неабходны пастаянны кантроль за якасцю рэалізуемых тавараў.

Адным з асноўных паказчыкаў становішча спраў на мэблевай фабрыцы з'яўляецца рэнтабельнасць, якая на фабрыцы за 11 месяцаў склала 14%. За 10 месяцаў атрыманы прыбытак 6853 мільёны рублёў. Тэмп росту вытворчасці тавараў народнага спажывання за 11 месяцаў да адпаведнага перыяду мінулага года склаў 108,1%. Мэблевая фабрыка штогод прадстаўляе свае вырабы на выставы-кірмашы, якія праводзяцца ў Маскве, Мінску, дзе заключаюцца дагаворы на пастаўку прадукцыі. Вырабы мэблевай фабрыкі знаходзяцца таксама на пастаянна дзеючай выставе тавараў народнага спажывання на базе культбытгандлю ў Брэсце. Упершыню заключаны дагавор на пастаўку прадукцыі ў далёкае замежжа, у прыватнасці, з французскай фірмай на пастаўку стэлажоў і камодаў з сасны.

**М.С.ЖОГАЛ,**
**дырэктар ААТ "Пружанскі льнозавод":**

— ААТ "Пружанскі льнозавод" сёння адно з лепшых прадпрыемстваў аб'яднання. Па аб'ёму вытворчасці наш завод болей чым у два разы апераджае іншыя заводы вобласці і мае стабільнае фінансавае становішча.

Адна з прычын стабільнасці работы прадпрыемства—гэта добрае забеспячэнне сыравінай, што дае магчымасць сёння працаваць на поўную нагрузку ў трохзменным рэжыме. Але супакойвацца рана, бо праблема тут існуе. Вось ужо на працягу трох гадоў лён губляе сваё месца ў фінансавых паказчыках гаспадарак. Ужо ў бягучым годзе плануецца павелічэнне закупачнай цаны на льнопрадукцыю ў два разы, а з улікам павелічэння дзяржаўных датацый цана адной тоны льнотрасты №1 павінна быць у межах шасці мільёнаў рублёў. Другім напрамкам нашай дзейнасці з'яўляецца развіццё вытворчасці. Без якіх-небудзь уліванняў фінансаў з боку мы сёння перапрацавалі ўсё кароткае льновалакно для патрэб Баранавіцкага вытворча-бавоўнянага аб'яднання.

Прадпрыемства выпрабляе нятканае валакно, упаковачную пасму, помнікі, нарыхтоўвае і перапрацоўвае драўніну, займаецца апрацоўкай зямлі.

На заводзе няма пустуючых памяшканняў, а наадварот, адчуваецца іх недахоп, ідзе будаўніцтва новых. Адзіны непрацуючы на заводзе ўчастак—гэта сталовая.

Звяртае на сябе ўвагу слабая матэрыяльная база некаторых нашых гаспадарак, якая не дазваляе своечасова выконваць работы: лён позна высяваецца, яшчэ пазней цярэбіцца. А ў мінулым годзе ўбіраўся разам з першым, а то і другім снегам.

**Р.П.ПРАКАПЕЦ,**
**прадпрымальніца:**

—Мой від дзейнасці — выраб кветкавых кампазіцый са штучнай зеляніны, сувеніраў. Я закончыла мастацкае вучылішча, працавала ў прыватнага прадпрымальніка ў якасці мастака-дызайнера па складанню кампазіцый і аранжыровак. У 1996 годзе рашэннем райвыканкома зарэгістравана як прыватны прадпрымальнік.

Р.П.Пракапец расказала аб сваёй дзейнасці, паскардзілася на тое, што значную частку даходаў даводзіцца аддаваць у бюджэт у якасці падаткаў.

**А.Ф.БАШКІРЦАВА,**
**загадчыца цэнтральнай раённай аптэкі.**

Прамоўца спынілася на рабоце дзяржаўных і прыватных аптэк. Некаторыя з прыватных аптэк закрыліся па прычыне стратнасці. Сярод дзяржаўных аптэк пастаянна стратнымі з'яўляюцца аптэкі ў вёсках Лыскава, Харава, Сухопаль. Пэўны час былі стратнымі аптэкі ў Лінова, Шарашова і Ружанах. Але кіраўніцтва цэнтральнай раённай аптэкі не імкнецца закрыць гэтыя аптэкі, а прымае пэўныя намаганні па змяншэнню іх страт шляхам расшырэння асартыменту медыкаментаў, больш частага іх папаўнення. Усе аптэкі атрымліваюць медыкаменты не менш чатырох разоў у месяц, а іншы раз 6—8 разоў.

—У адрозненне ад камерцыйных дзяржаўныя аптэкі павінны абавязкова мець устаноўлены Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь асартымент лекаў, закупляць іх у першую чаргу, забяспечваць імі дзіцячыя сады, школы, лячэбна-прафілактычныя ўстановы, насельніцтва па бясплатных і льготных рэцэптах, займацца нарыхтоўкай лекавых раслін. А ўсё гэта патрабуе вялікіх фінансавых затрат, дадатковых плошчаў, апаратуры.

Лекавыя формы для ін'екцый, прыгатаваныя ў аптэцы, танней заводскіх у 2 разы. Гэта эканоміць бюджэтныя сродкі. За адпушчаныя лячэбным установам лекавыя сродкі аплату мы атрымліваем не адразу. Гэта адмоўна адбіваецца на закупцы лекавых сродкаў, якую даводзіцца ажыццяўляць амаль штодзённа. Дагаворы на пастаўку медыкаментаў у 1997 годзе заключаны з Брэсцкім абласным вытворчым прадпрыемствам "Фармацыя" і 50 камерцыйнымі фірмамі. Без дэцэнтралізаванага закупу медыкаментаў нам не абысціся. Беларускія заводы выпускаюць толькі каля 300 назваў лекаў, ды і то ў недастатковай колькасці, таму што больш як 40% іх ідзе на экспарт. Камерцыйныя фірмы, што займаюцца аптовымі пастаўкамі завышаюць адпускную цану на 60 — 80%. Наша аптэка купляе медпрэпараты па цане, перавышаючай цану пастаўшчыка на 30 — 35%, але знаходзіць такіх пастаўшчыкоў становіцца ўсё цяжэй. Акрамя таго, мы не імкнемся даць максімальную нацэнку, таму што разумеем, што большая частка прэпаратаў купляецца насельніцтва за свае сціплыя сродкі. З аднаго боку — аптэка ўстанова аховы здароўя, але разам з тым яна прылічана да прадпрыемстваў рознічнай гандлёвай сеткі з усімі падаткаабкладаннямі. За 11 месяцаў 1997 года ў мясцовы бюджэт пералічана каля 53 мільёнаў рублёў, падатак на прыбытак і падатак на нерухомасць склалі каля 200 мільёнаў рублёў. Акрамя названых падаткаў, ёсць яшчэ шмат іншых. Са сваіх невялікіх даходаў мы плацім за арэнду памяшкання, ацяпленне, электраэнергію.

Неабходна абнаўляць абсталяванне, знос якога складае амаль 100%. На яго замену патрэбны велізарныя сродкі. Бягучыя і капітальныя рамонты памяшканняў праводзім за свой кошт. Сёння крайне неабходны капітальны рамонт аптэкі ў Ружанах, таму што разбураны падмурак і падае адна сцяна. Таксама патрэбны рамонт аптэкі ў Лінова, бягучыя рамонты ў іншых аптэках.

У сувязі з гэтым звяртаюся да дэпутатаў з просьбай аб вызваленні аптэк ад уплаты мясцовых падаткаў.

**У.Г.ТАРАСЕВІЧ,**
**старшыня раённага спажывецкага таварыства "Саюз":**

—У сістэме раённага спажывецкага таварыства "Саюз" працуе 1700 чалавек, якія абслугоўваюць практычна ўсё сельскае насельніцтва раёна. За 11 месяцаў рознічны тавараабарот склаў 293,5 мільярда рублёў, а тавараабарот прадпрыемстваў грамадскага харчавання—21,9 мільярда рублёў. Аказана платных паслуг насельніцтву на суму 137 мільёнаў рублёў, выпечана 5168 тон хлебабулачных вырабаў, выраблена 366 тон каўбасных вырабаў, 105—макаронных, перапрацавана 68 тон рыбы. Пашыта швейных вырабаў на суму 1,4 мільярда рублёў. Але нягледзячы на ўсё гэта, па стану на 1 лістапада 44 магазіны сістэмы з'яўляліся стратнымі, а з наступленнем ацяпляльнага сезона колькасць іх дасягае 70, а гэта каля 27% ад агульнай колькасці. Таму ў мяне як кіраўніка раённага спажывецкага таварыства ёсць прапанова: накіраваць 50% ад падатку за продаж алкагольных напояў на капітальны і бягучы рамонт сельскіх магазінаў, зменшыць або адмяніць мясцовыя падаткі для стратных сельскіх гандлёвых кропак.

**С.М.СТАРУШАК,**
**адміністратар гандлёвага дома "Апельсін":**

—Наш гандлёвы дом распачаў работу ў кастрычніку 1996 года. Цяжкасцей было шмат. З моманту адкрыцця магазіна стараліся арыентавацца на любога пакупніка з вялікім дастаткам. Цяпер вывучаем попыт насельніцтва на розныя віды тавараў, павялічваем асартымент для прыцягнення кліентаў, зніжаем гандлёвыя нацэнкі. Не да канца ў нас вырашана пытанне абслугоўвання пакупнікоў. Многім у нас падабаецца, але над гэтым пытаннем трэба яшчэ, безумоўна, працаваць і працаваць. Пастаянна аналізуем становішча на гандлёвым рынку горада. Калі знаходзім адсутнасць якога-небудзь тавара, прыкладаем усе магчымасці, каб мець яго ў сябе. Наш гандлёвы дом паспяхова супрацоўнічае з Аранчыцкім збожжапрыёмным прадпрыемствам, ААТ "Пружанскі масласырзавод", прадпрыемствам "Вяснянка". Што датычыцца нашых планаў на будучыню, то маем намер добраўпарадкаваць тэрыторыю магазіна. Плануем адкрыць яшчэ адзін харчовы магазін у раёне бальніцы.

**У. А. КУПЦЭВІЧ,**
**старшы інспектар Бярозаўскай міжраённай інспекцыі Брэсцкага аддзялення дзяржаўнай інспекцыі працы Рэспублікі Беларусь:**

— У 1997 годзе мною правераны тры малыя прадпрыемствы і пяць прыватных прадпрымальнікаў, кааператыў "АСТ". Пытанням аховы працы на прадпрыемствах з недзяржаўнай формай уласнасці і прыватных прадпрымальнікаў надаецца недастаткова ўвагі.

Асабліва выклікае трывогу становішча з захаваннем бяспекі працы працуючых на дрэваапрацоўчых станках. Так, у мінулым годзе адбыўся няшчасны выпадак на сумесным беларуска-германскім прадпрыемстве "МС + СК". Як паказаў аналіз матэрыялаў расследавання гэтага выпадка, асноўная прычына яго—неадпаведнасць дрэваапрацоўчага станка патрабаванням дзяржстандарта.

Хачу сёння нагадаць, што выдадзены масавым тыражом "Правілы бяспекі пры рабоце з механізмамі, інструментамі і прыстасаваннямі", якімі трэба карыстацца пры арганізацыі вытворчасці незалежна ад форм уласнасці.

На ўсіх праверaных прадпрыемствах недзяржаўнага сектара і ў прыватных прадпрымальнікаў праводзяцца інструктажы па тэхніцы бяспекі, але амаль усе журналы рэгістрацыі правядзення іх вядуцца з парушэннямі дзяржстандарта. Недастаткова распрацавана інструкцый па тэхніцы бяспекі ўсіх прафесій і па відах работ. Пры звальненні работнікаў з'явіліся выпадкі, калі звальняемы не можа ў дзень звальнення аформіць працоўную кніжку, а гэта значыць не можа ўладкавацца на новую работу.

**С.Л.КРАЦ,**
**дырэктар раённага ўпраўлення газавай гаспадаркі:**

—Хочацца засяродзіць увагу прысутных на пытаннях бяспекі эксплуатацыі газавых прыбораў у кватэрах нашых грамадзян.

Пры прыёмцы ў 1996 годзе ўладальнікаў жылля ад РВА ЖКГ на прамыя разлікі за выкарыстоўваемы газ узнікла шмат нявырашаных пытанняў. Многа кватэр пустуе, жыльцы не пражываюць, газ не адключаны, невядома ў каго ключы. Так, у г.п. Ружаны 18 снежня магла адбыцца аварыя, якая прывяла б да разбурэння чатырохпавярховага будынка, але, дзякуючы пільнасці суседзяў і ўмелым дзеянням аварыйнай службы райгазу, яна была прадухілена. Трывожная сітуацыя склалася ў ваенным гарадку Засімавічы. У 46 кватэр газавікі практычна не маюць доступу. У Слабудцы налічваецца 18 такіх кватэр, у Пружанах—14. Нашай службе трэба наладзіць з РВА ЖКГ і міліцыяй неадкладныя сумесныя дзеянні па навядзенню парадку ў такіх домаўладаннях.

Выклікае трывогу нясвоечасовасць разлікаў спажыўцоў за карыстанне газам. Запазычанасць на сённяшні дзень па РВА ЖКГ звыш 1 мільярда рублёў, па калгасе "Ленінскі шлях" — каля 100 мільёнаў, плодакансервавым камбінаце — звыш 40 мільёнаў рублёў. Больш як 500 тысяч рублёў кожная завінавацілі райгазу 10 сем'яў, звыш 200 тысяч — каля ста сем'яў.

# ГАСПАДАР

ВЫПУСК 1 (35)

## КІСЛОТНАСЦЬ ГЛЕБЫ

Глебы фарміруюцца на пародах, якія маюць шчолачную (карбанатныя) або кіслую (тарфянікі) рэакцыю. У шчолачнай глебе многа кальцыю — ён у невялікіх колькасцях неабходны ўсім раслінам. А ў вельмі кіслых глебах, надварот, солей кальцыю мала. Рэакцыя глебы (кіслая яна ці шчолачная) вымяраецца па шкале РН у межах ад 0 да 14 (РН — гэта і ёсць паказчык кіслотнасці). Так, напрыклад, хімічна чыстая вада мае рэакцыю нейтральную (РН такой вады = 7). У кіслых глеб велічыня РН меней за 7, у шчолачных — болей за 7.

Павышаная кіслотнасць глебы перашкаджае развіццю карысных мікраарганізмаў і саміх раслін і зніжае ўраджай. Таму кіслотнасць глебы лепш вызначыць у бліжэйшай аграхімлабараторыі. Але ў некаторай ступені можна вызначыць яе і па тым пустазеллі, якое тут расце. На глебах кіслых часцей за ўсё растуць хвошч, шчаўе, мята, трыпутнік, браткі, на слабакіслых і нейтральных — бярозка палявая, рамонак непахучы, пырнік, канюшына, чортапалох.

Для зніжэння кіслотнасці робяць вапнаванне глебы. Асноўны матэрыл для гэтага — молаты вапняк (вуглякіслая вапна), колькасць кальцыю ў ім прымаецца за 100%. Акрамя таго, выкарыстоўваюць даламітавую муку, вапнавы торф, азёрную вапну, усе віды попелу. Іх можна ўносіць разам з арганічнымі ўгнаеннямі — лепей ўвосень пад пераворванне глебы. Асабліва чуйныя на вапнаванне капуста, сталовыя буракі, цыбуля, часнок, шпінат. Пасля вапнавання павышаюць ураджай агуркі, фасоля, морква, цвятная капуста. Менш рэагуюць на вапнаванне памідоры, радыска, кабачкі.

## МЁД І МАТЭМАТЫКА

Усім вядома, наколькі геаметрычна правільным збудаваннем з'яўляюцца пчаліныя соты. Яны не толькі бездакорныя з матэматычнага пункту гледжання, але і выверавы па вельмі строгім стандарце: памеры ячэек у сотах аднолькавыя. Настолькі аднолькавыя, што ў 17 стагоддзі спецыялісты-метролагі прапаноўвалі выбраць бок ячэйкі ў сотах за адзінку даўжыні ў сістэме мер. Калі б гэта прапанова прайшла, то цяпер мы карысталіся б не метрамі і сантыметрамі, а якім-небудзь "пчольнікам" 5,37 міліметра — такая дакладная даўжыня боку шасцівугольнай ячэйкі.

Дададзім да геаметрыі крыху арыфметыкі. Якую адлегласць павінна праляцець пчала, каб у нас на стале з'явіўся кілаграмовы слоік мёду? Пасля кожнага вылету пчала прыносіць у вулей крыху больш за дзве сотыя грама мёду. Значыць, кілаграм — гэта 50 тысяч вылетаў. Прынята лічыць, што за адзін раз пчала здольна налятаць да трох кіламетраў. Такім чынам, кілаграм мёду эквівалентны амаль што чатыром аблётам пчалой зямнога шара па экватары.

## ЧАМУ МЫ ТАК ГАВОРЫМ?

Гэтую халодную пару нашы продкі назвалі адпаведна яе галоўнай прыкмеце — студзень. Гэтак жа ахрысцілі першы месяц года балгары і сербы. Вельмі блізкая паводле сэнсу яго назва ў чэхаў — ледэн. А вось украінцы надалі студзеню імя січэнь. Верагодна, так пазначана пара, калі сяклі дрэвы, бо менавіта зімой у драўніне найменш соку.

## МІНЕРАЛЬНЫЯ ЎГНАЕННІ

У залежнасці ад наяўнасці тых ці іншых элементаў жыўлення мінеральныя ўгнаенні падзяляюць на азотныя, фосфарныя і калійныя. Калі ў склад угнаення ўваходзіць адзін элемент жыўлення, то яно лічыцца простым, а калі два, тры і болей элементаў — складаным.

З азотных угнаенняў прамысловасць выпускае ў асноўным аміячную салетру, сульфат амонію, мачавіну і ў меншай колькасці — натрыевую і кальцыевую салетру. Паводле патрэбы ў азоце агародніну ўмоўна дзеляць на 4 групы: вельмі высокая (капуста цвятная, позняя белакачанная); высокая (капуста ранняя і сярэдняспелая, гарбуз, сельдэрэй); сярэдняя (агуркі, памідоры, бульба, морква, цыбуля, часнок); нізкая (гарох, фасоля, радыска).

Найбольш папулярным фосфарным угнаеннем з'яўляецца суперфасфат — просты і двайны. Паводле патрэбы ў фосфары агародніныя культуры падзяляюць на 3 групы: высокапатрабавальныя (бульба, капуста цвятная, белакачанная, морква, агуркі, гарбуз, фасоля); сярэднія (салата, пятрушка, памідоры); слабаўспрыімлівыя (радыска, сталовыя буракі, цыбуля-батун).

Калій станоўча ўплывае на збіранне ў агародніне і садавіне цукраў і вітаміну С. Частка калійных угнаенняў утрымлівае хлор: хлорысты калій, калійная соль, калімагнезія. Сульфат калію і паташ не маюць хлору. Крыніцай калію служаць таксама калійная салетра, нітрафоска, агародныя сумесі. У попелу саломы, бацвіння, лісця маецца 15—20% калію, драўніны — да 12%, торфу і каменнага вугалю — толькі да 1%.

Паводле патрэбы ў калію расліны падзяляюцца на 3 групы: высокая (бульба, капуста, морква, агуркі, фасоля); сярэдняя (памідоры, салата, цыбуля); нізкая (сталовыя буракі, радыска, цыбуля-батун).

**Вядучы рубрыкі Мікола АРХУЦІК.**

## Сардэчна Віншуем!



**Дарагую, любімую жонку, мамачку, нявестку і брацiху Галіну Уладзіміраўну ЯРАШУК**

*віншуем з 40-годдзем!*

*Единственная, родная, неповторимая! Мы в этот день спасибо говорим. За доброту и сердце золотое тебя сегодня мы благодарим. Ты для нас такая молодая даже с серебринкой в волосах. Мы тебя все любим очень и для нас тебя дороже нет. И дай тебе Господь, коль это в его власти, здоровья, долгих лет и счастья.*

**Сям'я Ярашукоў.**

**Дарагую сястрычку Тамару КАЗМІРЧУК**

*віншуем з 40-годдзем!*

*Сегодня — радость у тебя в глазах, а на лице — улыбка и волненье. Ты вправе этот день своим назвать, ведь это дата твоего рожденья! Так пусть же счастья светлые лучи тебе дорогу в жизни освещают и все невзгоды на твоём пути. в аллею тополей зелёных превращают!*

**Сястра Зоя, брат Віктар і іх сем'і.**



**Паважаны хросны Мікалай Сцяпанавіч КУНДА**

*з в. Плябанцы!*

*Віншуем з 60-годдзем!*

*Желаем счастья и добра, желаем жизни полной, желаем бодрости с утра до самой ночи поздней. Желаем в доме всё иметь, желаем в жизни всё успеть, здоровье, бодрость сохранить и много-много лет прожить.*

**Пляменніца і яе сям'я.**



**Дарагую мамачку Тамару Дзмітрыеўну ШУТ**

*віншуем з юбілеем!*

*Желаем, чтоб солнце тебя согревало, чтоб чёрные тучи тебя обошли, чтоб счастье с тобою все годы шагало, а беды и горе в дороге не шли. Пусть слёзы обид на глазах не искрятся и пусть не коснётся висков седина, а дни твои миром и радостью длятся, мы рядом с тобою — и ты не одна.*

**Сыны, нявесткі, унучкі.**



Всё это было, было, было,
Свершился дней круговорот.
Какая ложь, какая сила
Тебя, прошедшее, вернёт?
А.БЛОК.

Чырвоны
Жоўты
Зялёны

**Новае ў заканадаўстве:**

# Штраф за парушэнне заплаціць і пешаход

Шматгадовая "барацьба" супрацоўнікаў дзяржаўтаінспекцыі з аднаго боку і пешаходаў з веласіпедыстамі, вадзіцелямі аўтамотаблокаў і гужавога транспарту з другога часова прыпынена ўнясеннем змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія ўведзены ў дзеянне 11 снежня 1997 года.

У артыкуле 120 КоАП РБ гаварыцца: "Парушэнні Правілаў дарожнага руху пешаходамі, асобамі, якія кіруюць мапедамі, веласіпедамі, а таксама возчыкамі і іншымі асобамі, якія непасрэдна ўдзельнічаюць у працэсе дарожнага руху, цягнуць за сабой папярэджанне ці штраф у памеры ад 0,1 да 0,5 мінімальнай заработнай платы.

Учыненне тымі ж асобамі парушэнняў Правілаў дарожнага руху, якія пацягнулі за сабой стварэнне аварыйных абставінаў (пад стварэннем аварыйных абставінаў разумеюцца дзеянні, якія прымусілі іншых удзельнікаў руху рэзка змяніць хуткасць, накірунак руху ці выкарыстаць іншыя меры для забеспячэння асабістай бяспекі ці бяспекі іншых грамадзян) цягнуць за сабой штраф у памеры ад 1,5 да 3-х мінімальных заработных плат".

Супрацоўнік міліцыі пры разборы ўчыненага правапарушэння мае права патрабаваць ад вышэйуказаных удзельнікаў дарожнага руху, згодна раздзелаў 5 і 25 Правілаў дарожнага руху, уведзеных у дзеянне з 1 верасня 1996 года, дакумент, які пацвярджае веданне гэтых правілаў, і дакументы на транспартны сродак.

У выпадку ўзнікнення спрэчак і немагчымасці разабрацца ў гэтым правапарушэнні на месцы, парушальнік дастаўляецца ў РАУС для ўстанаўлення асобы і складання адміністрацыйнага пратакола.

Яшчэ раз хацелася б напомніць вадзіцелям веласіпедаў, што на веласіпедзе павінен быць нумарны знак,— гэта адно з патрабаванняў Правілаў дарожнага руху. Парадак набыцця нумарных знакаў падрабязна даецца ў "Раённых буднях" за 6 лістапада 1997 года.

Усіх удзельнікаў дарожнага руху, якія не разумеюць сваёй адказнасці, хачу папярэдзіць: дзяржаўтаінспекцыя з мэтай вашай жа бяспекі, маючы на ўзбраенні вышэйуказаныя заканадаўчыя акты, дзейнічае ў гэтым напрамку з самага пачатку года.

**Ягор ПЕТУШКОЎ, старшы дзяржаўтаінспектар.**



*Калектыў Пружанскага раёна электрасетак выказвае глыбокае спачуванне электраманцёру* ***Радзівончыку*** *Анатолю Мікалаевічу з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці* ***бацькі.***

---

*Праўленне, прафсаюзная арганізацыя калгаса імя Леніна глыбока смуткуюць з выпадку смерці калгасніка-пенсіянера, былога старшыні рэвізійнай камісіі, удзельніка працоўнага фронту*

***АСТАПЮКА Васіля Барысавіча***

*і выказваюць шчырае спачуванне сям'і, родным і блізкім памёршага.*

---

*Калектыў неўралагічнага аддзялення Пружанскага РТМА выказвае спачуванне* ***Шумскай*** *Марыі Фёдараўне з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці* ***брата.***

---

*Калектыў стаматалагічнага аддзялення Пружанскага РТМА выказвае глыбокае спачуванне загадчыцы аддзялення* ***Ласімовіч*** *Валянціне Якаўлеўне з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці* ***маці.***

---

*Калектыў Пружанскага "Сельгасэнерга" выказвае глыбокае спачуванне дырэктару Брэсцкай абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі* ***Лукуць*** *Тамары Фамінічне з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці* ***маці.***

---

*Калектыў работнікаў э/базы "Белавусаўшчына" глыбока смуткуе з выпадку смерці пенсіянера гаспадаркі*

***КАТА Мікалая Андрэевіча***

*і выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім памёршага.*

---

*Калектыў работнікаў э/базы "Белавусаўшчына" глыбока смуткуе з выпадку смерці пенсіянера гаспадаркі*

***КОЗЕЛА Аркадзя Емяльянавіча***

*і выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім памёршага.*


**Пункт гледжання аўтараў апублікаваных матэрыялаў можа не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў.**

**Рэдактар Мікола АНТАНОЎСКІ.**

***АДРАС РЭДАКЦЫІ: 225140, г.Пружаны, вул. Чырвонаармейская, 78.***

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Пружанскі раённы Савет дэпутатаў, раённы выканаўчы камітэт, калектыў рэдакцыі газеты "Раённыя будні".

**"Раённыя будні" — орган Пружанскага раённага Савета дэпутатаў і раённага выканаўчага камітэта. Выходзіць па аўторках і суботах, на беларускай мове.**
**Рэгістрацыйны нумар 178.**





*ТЭЛЕФОНЫ: рэдактар — 2-02-33, нам. рэдактара — 2-20-54, адказны сакратар — 2-12-36, карэспандэнты — 2-15-02, бухгалтэрыя — 2-14-74, рэдакцыя раённага радыё — 2-18-21.*



*Падпісана да друку 12.01 у 8.15.* **Зак. 3.**

***Газета набрана і звярстана на рэдакцыйнай камп'ютэрнай настольна-выдавецкай сістэме. Друкуецца афсетным спосабам у Брэсцкай абласной друкарні ўпраўлення па друку аблвыканкома (224637, г.Брэст-30, Маскоўская, 75).***

**Аб'ём 1 друк. аркуш. Тыраж 7561. Індэкс 63949.**